


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# наша СЛОВА

№ 4(14) •13—19 САКАВІКА •1991

Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны
Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)



НА ЗДЫМКУ: настаўніца Г. А. Геранок са сваімі другакласнікамі. Фота Э. ЦЕЦЯРЭЎСКАГА.

# У САВЕЦЕ МІНІСТРАЎ БССР

## ПАСТАНОВА

ад 12 лютага 1991 г.
№ 56

**ПЫТАННІ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ**

У мэтах пашырэння дзейнасці Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, якая садзейнічае ўсебаковаму развіццю нацыянальнай мовы і культуры, Савет Міністраў Беларускай ССР ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, міністэрствам і ведамствам БССР аказваць Таварыству беларускай мовы імя Ф. Скарыны дапамогу ў стварэнні яго арганізацый у гарадах, раёнах, на прадпрыемствах, ва ўстановах, навучальных установах, а таксама садзейнічаць у вырашэнні ўскладзеных на Таварыства задач.

2. Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны мае права:

стварыць ва ўстаноўленым парадку прадпрыемствы і арганізацыі для ажыццяўлення вытворчай і фінансава-эканамічнай дзейнасці ў адпаведнасці з мэтамі і задачамі, вызначанымі яго Статутам;

выпускаць сувенірную прадукцыю і вырабы культурна-бытавога прызначэння, адпаведныя яго профілю.

3. Дзяржэканомплану БССР і Дзяржснабу БССР прадугледжваць выдзяленне Таварыству па заяўках кіраўніцтва лімітаў на мэблю, аргтэхнікі, інвентару і іншых матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў, неабходных для нармальнага яго функцыянавання.

4. Дзяржаўнаму камітэту БССР па друку на дагаворных умовах ажыццяўляць па заказах Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выпуск неабходнай друкаванай прадукцыі.

5. Выканкомам мясцовых Саветаў народных дэпутатаў выдзяляць Таварыству беларускай мовы імя Ф. Скарыны памяшканні для размяшчэння ствараемых ім арганізацый.

6. Міністэрству сувязі і інфарматыкі БССР забяспечваць ва ўстаноўленым парадку сувяззю памяшканні Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны і падведамных яму арганізацый.

7. Дзяржаўнаму камітэту БССР па тэлебачанню і радыёвяшчанню, рэдакцыям рэспубліканскіх газет і часопісаў прапагандаваць дзейнасць Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, якая садзейнічае ўжыванню беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця рэспублікі, зберажэнню і развіццю нацыянальнай культуры і народных традыцый.

В. КЕБІЧ.
Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР.
М. КАЎКО.
Кіраўнік Спраў Савета Міністраў Беларускай ССР.

# *Абы спявалася...*

Першы беларускамоўны клас у Наваполацку быў створаны чатыры гады назад. Хто ў той год прычыніўся да гэтай справы, ведае, чаго яна каштавала. Цяпер той час успамінаецца з гумарам, а тады...

Здаецца, за дзень да першага верасня настаўнік СШ № 5, у якой і адчыняўся клас, Сяргей Анатольевіч Сокалаў з адчаем уздыхаў: «Хоць ты сам сядзь за гэтую парту!» Да слова, за адну з партаў таго класа сеў ягоны сын Стась. А бацька, цяпер найболей вядомы на Беларусі як паэт і бард Сяржук Сокалаў-Воюш, напісаў песню, іранічную і трохі сумную, пабудаваную ў форме дыялогу:

— Добры дзень у хату! Мы да вас са школы.
Просім прабачэння, як прыйшлі не ў час.
Ах, якія ж дзеткі ў вас — чыстыя анёлы!
Можа б, вы іх аддалі ў беларускі клас?

І адказ тым, хто распачаў нязвыклую гаворку:

— Вот яшчо прыдумалі! Мы не панімаем
І рабёнка порціць вам не аддадзім.
Мы ж яму навекі жызнь эцім паламаем,
Мы такіх прапяцьсцвіяў тут нагарадзім!

Гэта пачатак песні і адначасна пачатак адной са шматлікіх размоў. Трохі смешны, але больш горкі. Чым скончыліся тыя размовы? Не толькі напісаннем песні, але і стварэннем першага беларускамоўнага класа ў нашым горадзе. Іх цяпер у СШ № 5 — чатыры, у СШ № 2 — адзін, у СШ № 9 (аб'яўленай, дарэчы, беларускай школай) — сем.

Многа гэта ці мала? Калі ўспомніць, што пяць гадоў таму назад ва ўсім Наваполацку не было ніводнага, можна і парадавацца. А калі падумаць, што ў нашым горадзе дванаццаць сярэдніх школ, то...

І ўсё ж лёд неразумення, абыякавасці да лёсу роднай мовы быццам бы скрануўся, у чым пераконвае нават не колькасць класаў, а тое, як гэтыя класы ствараюцца. Напрыклад, наваполацкія літаратары цяпер з гонарам кажуць: «Летась і сёлета ў мікрараёне пятай школы мы беларусаў не шукалі!» Класы з'явіліся без асаблівага ўдзелу грамадскасці, а гэта значыць, што ў перспектыву беларускай справы паверылі і настаўнікі, і бацькі.

Сержукова песня, на жаль, яшчэ не састарэла. Але яе сатыра ўжо не так горка ўспрымаецца. Зрэшты, жыццё ідзе — для новых песень з'яўляюцца новыя тэмы. Напрыклад, пра тое, як у беларускамоўных класах часам правяраецца сяброўства: калі адзін падручнік — на дваіх, траіх, чацвярых вучняў... Словам, падкідвае жыццё новыя праблемы — абы спявалася.

— Як думаеце,— пытаюся ў настаўніцы СШ № 5 Галіны Антонаўны Геранок, якую так шчыльна, з любоўю атачылі на здымку яе вучні,— вытрываем? Не адступімся?

— А куды ж нам адступацца? — шчыра дзівіцца Галіна Антонаўна.— Дарогі ж назад няма. Азірніцеся...

А я баюся азірнуцца назад. Бо там — прорва бяспамяцтва, цынізму, падманнага дабрабыту. Не надта далёка адышліся мы ад гэтае прорвы. Амаль што яшчэ і на яе страшным беразе. Дык набярэмся ж моцы і мужнасці, каб зрабіць наступны крок, потым — другі, трэці, чацвёрты... І смела, не азіраючыся, не баючыся неспадзяваных падножак, пойдзем, упэўненыя ў сваёй праўдзе, па сваёй дарозе, вызначанай Богам, бабулінай песняй, матчыным словам...

Ірына ЖАРНАСЕК.

◈

*О родны мой краю,*
*Дзе родная мова*
*Забытая дзецьмі тваімі,*
*Дзе ганіць чужак тваё чыстае*
*слова —*
*Аж сэрца ў грудзях маіх стыне,*
*Дзе гіне народ у радыяцыі, дыме,*
*Дзе роспач у сэрцы дзіцячым.*
*Дык хай жа брат брата ласкава*
*абдыме,*
*Хай вераць нам людзі:*
*Мы не заплачам,*
*Мы будзем змагацца,*
*пакуль сэрца б'ецца.*
*За кожнага, хто беларусам*
*завецца!*

Алеся ЦІМОХІНА, СШ № 5.

(Верш перадрукаваны з газеты «Родны край» Маладзечанскага аддзялення ТБМ імя Францішка Скарыны).

◈

# ПРА НАСТАЎНІКАЎ СВАІХ

Калі я сяды-тады заходжу ў настаўніцкую якой-небудзь школы такога старажытнага беларускага горада, як наш Слонім, і чую там адну толькі рускую мову, то здаецца, што апынуўся ў цэнтральнай Расіі, дзе-небудзь у Саратаве ці Самары. Без толку гаварыць з дырэктарам на тэму пераходу навучання на беларускую мову. Заўсёды пачуеш, што не падрыхтаваныя, няма падручнікаў, няма загаду і г.д.

І дзіўна. Без ніякага пісанага загаду ўсе гарадскія школы перавялі з беларускай мовы на рускую. І няма вінаватых. А цяпер, каб усё адвярнуць назад, чакаюць нейкага загаду звыш. «Не падрыхтаваныя». А хто ж павінен падрыхтоўваць? Селянін, які здабывае для нас хлеб?

Пры такіх размовах прыходзяць на памяць самаахвярныя настаўнікі заходнебеларускіх гімназіяў з часоў беларусапольскай акупацыі. З тых, хто мяне вучыў, на першае месца стаўлю настаўніка беларускай мовы і літаратуры Віленскай беларускай гімназіі Ігната Дварчаніна. Ён выдатна абыходзіўся без падручнікаў. Назубок ведаў свой прадмет выкладання і ўсю на той час беларускую літаратуру. А каб вучням лягчэй было засвойваць зададзенае, наш настаўнік падрыхтаваў і ў 1927 годзе выдаў «Хрэстаматыю беларускай літаратуры». Словам, Ігнат Сымонавіч усе свае сілы, здольнасць і набытую ў Чэхаславакіі навуку аддаваў вучням, каб яны сталі людзьмі, патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны, носьбітамі ў масы роднай мовы, гісторыі, культуры. І ў гэтым ён меў выдатны поспех.

Другім шчырым патрыётам беларускага адраджэння, якога мне пашчасціла пазнаць і які мяне вучыў, быў настаўнік хіміі Клецкай беларускай гімназіі Вячаслаў Міхайлавіч Арэнь. Ён не мог уявіць, каб вучні не ведалі беларускай мовы і таго прадмета, які выкладае. А падручніка па хіміі на беларускай мове не было. І настаўнік па праграме 5-га класа гімназіі (адпавядаў 7-му класу нашай дзесяцігодкі) сам пісаў падручнік, лісты размнажаў на шапірографе (каб хапіла кожнаму вучню) і прыносіў на заняткі.

Таму такога настаўніка не магу забыць да самай смерці.

Яшчэ пра аднаго настаўніка хачу сказаць пару слоў. Гэта, як і Ігнат Дварчанін, выпускнік Карлава універсітэта ў Празе Вінцук Грышкевіч. У Віленскай беларускай гімназіі гэты настаўнік выкладаў гісторыю. А падручнікаў па гісторыі (у даным выпадку сярэдніх вякоў) таксама не было на беларускай мове. І Грышкевіч купіў некалькі экземпляраў падручніка па гісторыі на польскай мове, расшыў іх па лістах і раздаў вучням старэйшых класаў, каб пераклалі на беларускую мову. Не ведаю, ці ўдалося гэтаму энтузіясту выпусціць кнігу па гісторыі сярэдніх вякоў.

Хочацца, каб след гэтых бескарыслівых настаўнікаў і памяць пра іх не загінулі. Я не кажу, каб усе настаўнікі былі менавіта такімі. Але прыклад браць трэба асабліва цяпер, калі беларуская мова заціраецца нават у школах, не кажучы ўжо аб установах, прадпрыемствах.

Вельмі непрыемна слухаць, калі некаторыя журналісты на тэлебачанні пачынаюць гаварыць па-беларуску, а потым пераходзяць на рускую мову — прыстасоўваюцца. Няма ніякай логікі, каб мы на сваёй зямлі прыстасоўваліся.

Анатоль ІВЕРС.

г. Слонім.

# ПОДЗВІГ САПЕГІ

Летам 1588 г. з віленскай друкарні Мамонічаў выйшлі першыя экземпляры знакамітага трэцяга Статута Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, што быў падрыхтаваны ў заключнай рэдакцыі і выдадзены пры самым чынным удзеле Льва Сапегі — тагачаснага падканцлера гаспадарства.

З'яўленне Статута 1588 г.— унікальная падзея як у жыцці нашае Бацькаўшчыны, так і ўсяе славянскае супольнасці, бо трэці Статут Вялікага Княства — гэта сімвал велічы ды стваральнай моцы беларускага народа, яго велізарнага значэння і непаўторнай ролі ў развіцці еўрапейскай цывілізацыі ў мінулыя часы.

Але, напэўна, сёння далёка не ўсе ведаюць, што гісторыя падрыхтоўкі гэтага важнейшага кодэкса законаў сярэдневяковай беларускай дзяржавы вельмі складаная, а часам нават драматычная.

Як сведчаць гістарычныя крыніцы, праца над Статутам 1588 г. пачалася ажно ў 1566 г., ледзьве не адразу пасля зацвярджэння на Берасцейскім Вальным Сойме другога Статута Вялікага Княства, які быў прызнаны недасканалым і таму патрабаваў пэўнай дапрацоўкі. У 1568 г. дэпутаты Гарадзенскага сойма ўтварылі першую камісію для «папраўы Статута», у склад якой увайшлі віленскі каталіцкі біскуп Валяр'ян, берасцейскі ваявода Юры Тышкевіч, жамойцкі кашталян Мельхіёр Шэмет, берасцейскі кашталян Ян Гайко ды некалькі прадстаўнікоў шляхецкіх станаў. Перад абранай статутавай камісіяй была пастаўлена задача — дапрацаваць асобныя нормы кодэкса 1566 г.

Але статутная камісія рабіла не доўга: з-за палітычных падзей канца XVI ст. распачатая праца над Статутам спынілася. Што ж тады адбылося?

Беларуская шляхта і рыцарства, знясіленыя за 10 год вайны, што вялася з 1558 г. між Вялікім Княствам і Масковіяй, каб атрымаць хоць якую вайсковую падтрымку з боку Польшчы, мусілі пайсці на заключэнне з ёю дзяржаўна-палітычнага саюзу, чаго палякі дамагаліся здавён. 10 студзеня 1569 г. велікакняскія ды польскія дэпутаты, а таксама ўрады абедзвюх дзяржаваў, з'ехаліся ў Любліне на агульны Сойм, каб вырашыць пытанне аб прынцыпах новага паяднання.

Да сярэдзіны студзеня паслы Вялікага Княства прадставілі свой праект уніі, які прадугледжваў утварэнне федэрацыі — раўнапраўнага саюзу дзвюх незалежных краін, з адзіным Вальным Соймам і адзіным гаспадаром. Аднак польскія магнаты, карыстаючыся цяжкім становішчам беларускага панства, адверглі падтрыхтаваны велікакняскай дэлегацыяй праект, патрабуючы адно толькі інкарпарацыі Вялікага Княства, гэта значыць, ліквідацыі яго як самастойнай дзяржавы і поўнага ўваходжання («уцялення») у склад Польшчы.

Пасля некалькіх месяцаў драматычных дыскусій паслы Вялікага Княства, на чале з Яўстафіям Валовічам ды Янам Хадкевічам, дзеля выратавання Бацькаўшчыны ў той трагічны момант ад маскоўскае навалы вымушаны былі ўсё-такі напачатку ліпеня 1569 г. падпісаць надзвычай цяжкі для гаспадарства праект уніі з Каронаю.

Як і дабіваліся палякі, «Заключны Акт аб уніі» прадугледжваў утварэнне унітарнай краіны, аб чым адназначна сведчыць яго першы артыкул. «Каралеўства Польскае і Вялікае Княства Літоўскае,— гаварылася ў ім,— з гэтага часу з'яўляюцца адзіным і непадзельным целам; утвараюць адзіную Рэч Паспалітую, у якой зліліся дзве дзяржавы і два народы ў адно цэлае. Гэтым адзіным народам, з гэтага моманту і ва ўсе часы надалей, будзе кіраваць адзіны гаспадар, адзіны агульны кароль, абраны ўсімі палякамі і насельнікамі былога Княства».

У адпаведнасці з «Заключным Актам аб уніі» Вялікаму Княству забаранялася мець свой урад, фінансы, валюту ды незалежны заканадаўчы орган — Вальны Сойм. Гэтаксама ліквідавалася граніца між Каронаю і Княствам; палякам дазвалялася набываць маёнткі, зямельныя надзелы і дзяржаўныя пасады на тэрыторыі Княства, а насельнікам Княства — у Польшчы.

Па падпісанні «Заключнага Акта аб уніі» той жа Сойм 11 лістапада 1569 г. зацвердзіў папоўнены склад статутавай камісіі, мэтай якой цяпер з'яўлялася прывядзенне заканадаўчых нормаў Вялікага Княства ў адпаведнасць з польскім правам, з улікам падпісанай уніі. Гутарка, такім чынам, на справе ішла не пра ўтварэнне федэрацыі ды заканадаўчае яе афармленне, а пра поўнае скасаванне законаў Вялікага Княства, услед за чым непазбежна наступіла б знішчэнне незалежнага беларускага гаспадарства і, урэшце, яго пагібель.

Аднак у паноў-рады і шляхты Княства сякія-такія шанцы абараніць сваю свабоду ад палякаў усё ж меліся. Абнадзейвала тое, што ў склад статутавай камісіі, па дамаганні велікакняскіх паслоў, не ўвайшло ніводнага паляка. Ад паноў-рады Вялікага Княства былі абраныя той жа біскуп Валяр'ян ды Мельхіёр Шэмет, якія працавалі над выпраўленнем Статута з 1568 г., а ад шляхты — Мікалай Дарагастайскі (стольнік Княства), князь Лукаш Свірскі (ад віленскае ды трокскае шляхты), маршалак Бенядзікт Юрага (ад наваградскай), князь Павел Сакалінскі (ад полацкай), Ян Сколка (ад віцебскай), суддзя Кірдзей Крычаўскі (ад мсціслаўскай), Марцін Валадкевіч (ад мінскай), Ян Сцяцковіч (ад жамойцкай). Ім дапамагалі два земскія пісары — Андрэй Мацковіч (віленскі) ды Пётра Станіслававіч (ашмянскі). Знакаміты доктар права віленскі войт Аўгустын Ротундус павінен быў аказваць статутавай камісіі юрыдычныя паслугі.

Менавіта дзякуючы гэтакаму складу камісіі, якая наўмысля не спяшалася выконваць даручэнне Сойму 1569 г., удалося, спасылаючыся на вайну з Масковіяй, як на ўважлівую прычыну, знарок зацягнуць час і фактычна прыпыніць на нейкі перыяд прывядзенне законаў Княства ў адпаведнасць з каронными. Безумоўна, карыстанне падобнымі прыёмамі не магло цягнуцца бясконца. Аднак у гэтым, як паказалі наступныя падзеі, і не існавала патрэбы. Сёмага ліпеня 1572 г. памёр Жыгімонт II Аўгуст, і Рэч Паспалітая больш як на паўгода засталася без караля, а затым, пасля непрацяглага праўлення Генрыха Валуа (з лютага 1573 па 28 чэрвеня 1584), пачаўся другі перыяд жыцця Рэчы Паспалітай без манарха. Гэтыя падзеі якраз і скарыстала Вялікае Княства, каб праігнараваць выкананне несправядлівых і гвалтоўных рашэнняў Сойма 1569 г.

Праўда, у час каранацыі Генрыха статутавая камісія, няйнакш дзеля формы, прапанавала яму для зацвярджэння адзін папраўлены артыкул Статута. Але паколькі на яго ўключэнні ў соймавую Канстытуцыю велікакняскія паслы не настойвалі, то ён нават не абнародаваўся.

Адным словам, час быў выйграны, крытычная сітуацыя мінула. У 1576 г. трон Рэчы Паспалітай заняў сямігародскі ваявода Сцяпан Батура, які амаль безагаворачна прызнаў за Вялікім Княствам дзяржаўную незалежнасць, што пацвярджала ягоная Грамата ад восьмага ліпеня 1576 г., у якой новаабраны манарх запэўніваў: «Захаванне правоў, вольнасцяў ды свабодаў Вялікага Княства Літоўскага мы замацавалі нашаю прысягаю». С. Батура таксама пагадзіўся з тым, што на землях Вялікага Княства павінны мець сілу толькі велікакняскія законы. Звяртаючыся да ўраднікаў Княства, ён загадваў, каб яны «справы судовые водле обычаю права посполитого и Статута Великого Князства Литовского отправовали».

Новыя акалічнасці жыцця карэнным чынам змянілі кірунак і характар дзейнасці статутавай камісіі. З гэтага моманту яна пачала актыўна выпрацоўваць заканадаўчыя нормы, якія б баранілі палітычны і эканамічны суверэнітэт Вялікага Княства. Ужо праз два гады пасля абрання каралём і вялікім князем С. Батуры камісія прадставіла Генеральнаму Вальнаму Сойму 1578 года шэраг «паправаў», якія большасцю галасоў былі прыняты і абвешчаны ў Канстытуцыі Сойму. Адзін з важнейшых артыкулаў — трэці дзевятага раздзела — у новай рэдакцыі пацвярджаў незалежнасць Княства і забараняў іншаземцам, найперш палякам, займаць у межах гаспадарства духоўныя ды свецкія пасады, а таксама купляць землі і маёнткі. «Теж таки мы, Господар,— падкрэслівалася ў ім,— обецуем и шлюбуем под присягою нашею, которую чинилисмо Великого Князьства Литовского всем станом обывателем его, што ж в том панстве Великом Князьстве Литовском и всех землях ему прислухаючих достойностей духовных и свецких, городов и дворов, волостей и кгрунтов, староств, держаней, врядов земскых и дворных, и поживаня вечности и жадным обычаем людем, а ни заграничником того паньства давати не маем, але и всеми потомками нашыми Великими Князьми Литовскими, маем и повинны будем давати толко Литве, Руси и Жемуйди, родычом старожитным Великого Князьства Литовского...»

На Варшаўскім Сойме 1578 г. былі гэтаксама зроблены ўдакладненні асобных нормаў крымінальнага і працэсуальнага права. Пазней, на Вальных Соймах 1579 і 1580 гадоў, статутавая камісія прапанавала іншыя змены і дапаўненні, аднак узмацненне вайсковых дзеянняў на ўсходніх межах у 1579—1582 гадах адсунула пытанне аб выпраўленні Статута на другі план. Ды й сама камісія недзе каля 1580—81 гадоў прыпыніла сваю дзейнасць.

Новы этап работы над трэцім Статутам пачаўся прыкладна з 1582 г. і быў цесна злучаны з дзейнасцю Дзяржаўнай Канцылярыі Княства, найвышэйшым пісарам якой з чацвёртага лютага 1581 года стаў Леў Сапега.

Менавіта Леў Сапега ды тагачасны падканцлер Княства Яўстафій Валовіч узялі ў свае рукі справу стварэння новага трэцяга Статута, патрэба ў якім у 80-я гады XVI ст. адчувалася вельмі моцна, бо змены ў жыцці і судовая практыка патрабавалі новых заканадаўчых нормаў. Утварэнне ў 1581 г. Трыбунала — вышэйшага гаспадарскага суда Вялікага Княства, ужо патрабавала неадкладных і прынцыповых перапрацовак артыкулаў дзяржаўнага ды працэсуальнага права ў асноўным законе — Статуце, які па сваёй сутнасці выконваў адначасна ролю Канстытуцыі і зводу важнейшых законаў сярэдневяковай беларускай дзяржавы.

Апроч таго, у публіцыстыцы 80-х гадоў разгарнулася шырокая дыскусія аб сутнасці дзяржавы, прызначэнні свецкай улады і іншых важнейшых пытаннях арганізацыі гаспадарскага жыцця. Многія пратэстанцкія дзеячы — Якуб з Калінаўкі, Пётр з Гоняда, Марцін Чаховіц, Павел з Бжэзін, Ян Немаеўскі, Павел з Візны — выступілі з патрабаваннем ліквідацыі існуючых дзяржаўных структур, лічачы іх праціўнымі вучэнню Хрыста. З анархістамі пачалі палемізаваць Сымон Будны, Станіслаў Кашуцкі, Андрэй Волан, Станіслаў Рудзінскі ды іншыя. Аднак гэтага было недастаткова, патрабаваліся аўтарытэтныя дзяржаўныя акты, якія б цвёрда і адназначна замацоўвалі тую ці іншую канцэпцыю дзяржавы і права. Такім актам, вядома ж, мог быць толькі Статут.





Тытульны ліст Статута. 1588.

Заканчэнне будзе.

## З лякарні спадара Алеся

### Здымае стомленасць

Для хуткага адпачынку абгарнуць ногі намочанай у халоднай вадзе і выкручанай тканінай, зверху сухой (лепш за ўсё выкарыстоўваць ільняную тканіну). Добра накрыць ногі. Ляжаць ад 30 да 120 хвілін. Праз 30 хвілін тканіну мачыць. (Гэты сродак зніжае гарачку, выдаляе з арганізму газы.)

### Пры адрыжцы

1. Калі адрыжка пачынаецца праз 2 гадзіны пасля яды і працягваецца праз кожныя 4—5 хвілін, рабіць наступнае. Апускаць ногі ў цёплую ваду 2—3 разы на дзень. Поўнае абмыванне. Верхняе і ніжняе абліванне (10 дзён па 2 працэдуры на дзень).

Потым: абмыванне поўнае, кампрэсы верхнія і ніжнія. Кленчыць у вадзе. Абліванне плячэй. Так зноў 10 дзён.

Трэці курс: паўкупанне і абмыванне поўнае. За 3—4 тыдні хворы папраўляецца.

Каб і надалей быць здаровым, патрэбна сістэматычнае (па некалькі разоў на тыдзень) абмыванне поўнае або абліванне верхняе і ніжняе.

(Гэты сродак дапамагае пазбавіцца запораў, пацення ног.)

2. Пры адрыжцы кіслым (болях у жываце, болях страўніка пры адсутнасці апетыту, пры млявасці, а таксама калі халадзеюць рукі і ногі) рабіць наступнае:

а) кожны ранак і кожны вечар грудзі і жывот націраць халоднай вадою напалам з воцатам;

б) кожную раніцу есці 6—8 ягадзін ядлоўцу:

в) 3 разы на тыдзень, падняўшыся з ложка, поўнасцю абмывацца халоднай вадою і, не выціраючыся, зноў лажыцца ў ложак. За 14 дзён папраўляўся хворы.

Варта абмывацца і далей хаця 6 раз на тыдні халоднай вадою.

### Пры бранхітах

1. Каб лепей адхарквалася (а таксама пры нервовых захворваннях і бранхітах), трэба піць па адной сталовай лыжцы праз кожныя 2 гадзіны настой з каронычыкаў асакі. Настой гатаваць наступным чынам: адну чайную лыжку раздробленага асаковага каранішча заліць шклянкай халоднага вару і пакінуць на ноч, затым працадзіць. Можна карыстацца і іншым сродкам прыгатавання настою: адну сталовую лыжку карэнішча заліць 0,5 літра гарачага вару, праз 2 гадзіны працадзіць. Піць па палове шклянкі 4 разы на дзень.

2. Тры сталовыя лыжкі травы святаянскага зелля заліць 2 шклянкамі гарачага вару, настойваць 2 гадзіны. Прымаць па 1/3 шклянкі 3 разы на дзень.

Гэткім чынам лечаць язвавыя хваробы страўніка, гастрыты, энтэракаліты, захворванні нырак, цыстыты. Ужываюць і як мачагонны сродак.

### Пры алкагалізме

1. Вялікую агіду можа выклікаць у алкаголіка гарэлка, настоеная на карані любісціка і двух лістах высакароднага лаўра.

2. Ужываецца яшчэ адвар карэнняў капытніку. Дадаюць яго да гарэлкі (гэта выклікае ваніты). Адварам апырскваюць падушкі, каб пах нагадваў пра ваніты і рабіў успамін пра гарэлку брыдкім.

## АБ'ЯВЫ

### Паважаныя чытачы «Нашага слова»!

**Нагадваем тым, хто не падпісаўся на газету Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, што гэта вы можаце зрабіць у арганізацыях «Саюздруку» або ў любым аддзяленні сувязі СССР. Падпісацца можна на астатнія месяцы 1991 года. Індэкс выдання 74975. Кошт аднаго нумара па падпісцы — 5 капеек.**

**Выпісвайце і чытайце «Наша слова»! Дасылайце на адрас рэдакцыі допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з адраджэннем беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны.**

### ДА СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ

Дарагія беларусы ўсіх краёў! Без вашых допісаў «Наша слова» не здолее расказаць пра тое, чым жывяце вы далёка ад роднай Беларусі. Без нашай газеты вы не даведаецеся шмат чаго пра адраджэнне на Бацькаўшчыне.

Просім адгукнуцца ўсіх тых, хто хацеў бы сёлета атрымліваць «Наша слова», а таксама дасылаць нам артыкулы, інфармацыю, фотаздымкі.

**Рэдакцыя «Нашага слова».**

◆◆◆

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны арганізуе бясплатныя 2-х месячныя курсы па інтэнсіўнаму аваладанню беларускай мовай. Заняткі кожную сераду ў 18.00. Пачатак у красавіку.**

Даведкі па тэл. 33-25-11.

**Абвяшчаецца конкурс на пасаду выкладчыка беларускай мовы і літаратуры Рыжскай Акадэміі культуры (Рэспубліка Латвія). Акрамя кваліфікацыі па асноўнай спецыяльнасці, прэтэндэнт павінен валодаць навыкамі выкладання асноў гісторыі Беларусі і гісторыі айчыннай культуры.**

**Заняткі пачнуцца з 1 верасня 1991 года, прапіска і жыллё ў г. Рызе прадастаўляюцца.**

**Умовы і вынікі конкурсу вызначаюцца Адукацыйнай камісіяй ТБМ імя Ф. Скарыны.**

**З прапановамі звяртацца па адрасу:**

**220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13, Рэспубліканская Рада ТБМ імя Францішка Скарыны.**

### ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ!

Да вас звяртаецца чалавек, які толькі пачаў чытаць вашу газету. Радуе, што ваша слова даходзіць да людзей. Тыя артыкулы, якія я прачытаў, вяртаюць людзей да нацыянальнай свядомасці.

Аб сабе: я сам беларус, вайсковец. Падпісаўся на «Наша слова» на ўвесь 1991 год.

З павагай **Уладзімір БЫТЧАНКА,**
**Брэстчына.**

## І смех і грэх

# Рэжым найлепшага спрыяння




— Послушай-ка, братец Ваш Ко-Ко,— неяк звярнуўся да мяне мой шэф Сільвестар Нікадзімыч Варфаламееў.— Ты ведь, кажется, белорус?

— Да уж,— сціпла адказаў я.

— А то я смотрю, глаза у тебя такие добрые, что даже глупые.

— Ізвенеце. Не хацеў,— прамовіў я.

— Смотри мне! — Сільвестар Нікадзімыч памахаў пальцам. Ён, напэўна, сам сабе нешта падумаў, бо хвіліну сядзеў моўчкі і хмарыў круглую і велізарную, бы спод у цэбары, лабаціну.

— Послушай-ка, братец Ваш Ко-Ко. Как ты смотришь на то, чтобы тебе создали, как это у вас, у бульбашей... «умовы найлепшага спрыяння»?

Кажу:

— Раз нада, значыт, нікуда не дзенешся.

— Не такой ты дурень, как прикидываешься,— прыхваліў мяне Сільвестар Нікадзімыч, і я нат пачырванеў трошкі праз сваю сціпласць, што займеў у спадкі ад прашчураў з матчынай радзіны. Сільвестар Нікадзімыч працягваў, паважна і мудра: — Понимаешь, друг мой Ваш Ко-Ко, курс сейчас нацелен на то, чтобы вам, стало быть, бульбашам, помочь в очень ответственном и сложном деле. Народец вы, сам знаешь, какой. Настоящей жизни веками, поди ты, не видывали. Ну, ничего. Поможем. Где только ваше не пропадало — всегда мы находили. Не так ли, дружище Ваш Ко-Ко?

— Очань дажа верна,— адобрыў я.

— Ну, так ступай же, товарищ, и привыкай жить в совершенно новых условиях.

І я пайшоў. У часе вячэры я распавёў сваёй жонцы, ціхаманай і ласкавай жанчыне, пра тое, што шэф рыхтуе нам новае жыццё, споўненае наўсцяж культураю, смачным ежавам і ўсялякай іншаю прыемнасцю. Мая кабета ўсхвалявалася ды з радасцю перакуліла кубачак з гарбатаю, абварыўшы гарачым пітвом скуру на маім калене. Уначы мы ў бяссонні здратавалі ложак і не мусілі заснуць аж да ранку: гэтак марылі, што зусім абалбанелі ад шчаслівых подумаў.

Мінулася колькі часу. Лепшыя ўмовы не пачыналіся. Мабыць, не ўсё яшчэ было там падрыхтавана для нашага пераходу да новага жыцця. Чагосьці бракавала ў нейкім эшалоне. Гэтак я думаў, дзякуючы сваёй кемлівасці, якая, па ўсім відаць, зачалася дзесь у бацькавым радаводзе. Мы з маёю жанчынкаю вырашылі не прыспешваць падзеі і жылі сабе ранейшаю жыткаю. А во нейкага дня прыйшоў сынок са школкі ды ўнадзіўся па-польску казаць. Ды ўсё аднае і тое:

— Лята оса коло носа. Лята оса коло носа...

— Чаго ж гэта ты, дзетухна, у пальшчызну ўлёг? — дзіўлюся.

— Я, тата,— адказвае,— да Варшавы хачу паехаць пасля таго, як школу скончу. Нам твой шэф Сільвестар Нікадзімыч Варфаламееў гэтыя шляхі ўказаў, калі прысутнічаў на адкрыцці польскіх класаў у школе. А настаўніца нашая так прама і кажа: «Вашая беларуская мова — для калекцыйнага хазяйства».

Кладучыся спаць, я падумаў: сапраўды, вялікая справа — калгасы, і каму як не нам, беларусам, чынна спрычыніцца да пачэснае справы. Гэтак я і ўнурыўся ў сон з вераю ў лепшыя ідэалы. Ажно прачнуўся сярэдначы праз тэлефоннае бомканне, зняў трубку і пачуў незнаёмы голас:

— Скажи честно, товарищ Ваш Ко-Ко, ты за федерацию или за контрреволюцию? Если за контрреволюцию, то отключим газ, воду, свет, тепло, телефон и засорим канализацию. А если за федерацию, то за пользование всем этим подымем цены.

— За федэрацыю,— адказаў я ў спалоханасці, якую, відавочна,налучыў і ад бацькі, і ад маткі.

Праз гадзіну зноў у кватэры забомкала.

— Халё! — падняў я трубку.

Яшчэ больш незнаёмы голас, чымся быў дагэтуль, упошапт запытаўся пра маё стаўленне да летувісаў. Ува мне ад дзяцінства выхоўвалі любоў да іншых народаў, таму я з гонарам адказаў:

— Добрыя людзі. Лепш і не трэ'.

— Ну, то беражы лабусаў,— прагучала дзіўная парада.— Пераб'юць іх — тады з беларусоў скуру лупіць пачнуць.

Зразумела, што ў гэтую ноч я не паспаў як след. Але наранку меў яшчэ адную неспадзеўку. Да маёй хаты прыехалі на грузавіку чатыры каржакаватыя дзецюкі і наладавалі кодаб бульбаю з майго склепу. Я зразумеў, што, як не мудрагель, бульбу звязуць, аднак паспрабаваў запярэчыць:

— Браткі, яна ж радыяктыўная!

— Нічога! — супакоілі мяне.— Масква з'есць і не гэткае.

Я быў засумаваў, ды хутка мой гумор палепшаў, і я нат з радасцю прамовіў сам да сябе:

— Галоўнае, што яе з'ядуць. Урэшце для гэтага вырошчвалася і збіралася.

Я ўжо хацеў пайсці на работу, як раптам да мяне ў хату завітаўся нейкі тыпус у цывільным, як той казаў. Ну, словам, з аднае ўстановы, пра якую маўчаць будзе лепш для ўсіх нас. Ён паведаміў, што апошняга часу пра мяне прыйшло дзевяноста сем ананімак (дзе таемны добразычліўца спавяшчае аб усіх маіх вымудрах) і што «там» вядомая кожная дробязь.

— Если ты, сукин сын, хочешь, живя в обществе, быть свободным от общества, то я могу тебе это устроить,— гарантаваў мне таварыш на развітанне.

Зразумела, я падзякаваў за прапазіцыю і вырашыў: ліха яе бяры, гэткую свабоду, пракідаюся як-небудзь разам з іншаю грамадою.

Праз колькі дзён я меў размову з Сільвестрам Нікадзімычам Варфаламеевым. Лабаціна ў яго пагладчэла, хмурынкі зніклі, скура цешыла маё вока прыемнаю прожаўцю (не іначай з паўднёвага курорту вярнуўся ад нядаўнага часу).

— Ну, как, голубчик Ваш Ко-Ко, действует режим наилучшего благоприятствования? — пацікавіўся ён.

— Очень дажа атлічна,— адказаў я.— Ядзінственна харашо бы была, што б ананімак не пісалі. Абідна как-та.

— Придётся, братец, потерпеть,— спачувальна прамовіў шэф.— Пока курс не изменится.

Мне дык што. Як трэба, дык буду трываць. Я і сам не ведаю, адкуль у мяне гэткая рыса. Спрадвеку хіба.

**Ваш Ко-Ко.**

*Міхась СКРЫПКА*

### ПРАМОЙ НАВОДКАЙ

Быў час (не так ужо даўно)
Мы фільмы добрыя глядзелі.
Цяпер кіно не за кіно,
Калі без голых у пасцелі.

* * *

Калі працуеш на складзе,
А сніцца казённая хата,
Скажы сабе цвёрда: «Не
крадзем!» —
Жыві на зарплату.

* * *

Засвоіў ён з гадамі,
Як жыць на службе малайцом:
Не можаш варушыць мазгамі,
Тады віляй хвастом.



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі 33-25-11.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 8 000 паасобнікаў. Заказ 2433. Індэкс 74975.